ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 51 (1545) ГОД XXX БЕЛАСТОК 22 СНЕЖНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.



Л. Тарасэвіч, 1985.

## ВЯРТАННІ ДА САРДЭЧНАЙ КРАІНЫ

**ІНТЭРВ'Ю З ФРАНЦІШКАМ СЯЛІЦКІМ, ПРАФЕСАРАМ ВРОЦЛАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА**

**— Вы вядомы як аўтар шматлікіх прац па беларускім фальклоры. Раскажыце пра сваё жыццё ды свае сувязі з Беларуссю.**

— Нарадзіўся я ў 1923 годзе ў вёсцы Мікуліна, што была ў Даўтінаўскай гміне Вілейскага павета, і пражыў там да 1941 г., гэта значыць дзевятнаццаць гадоў. Таму не дзіва, што пасля няраз вяртаўся я ў думках у тыя часы, хоць жыццё тады не было лёгкім, але і не заўсёды панурым. Наш рэгіён быў пераходнаю зонаю паміж літоўскай і беларускай стыхіямі. Пераважалі ў нас каталікі. Як сцвярджае сучасная беларуская навука, землі Беларусі з каталіцкай большасцю насельніцтва належылі некалькі літоўскім плямёнам, хрышчаным у каталіцкім абрадзе ў часы Ягайлы ды Вітаўта. З часам яны абеларусіліся, прымаючы як сваё не толькі мову і культуру беларусаў, але таксама і шмат-якія звычаі. Адначасна, услед за польскім каталіцтвам, прымалі яны і элементы польскай культуры, што знаходзіла адлюстраванне ў славутым самавызначэнні: „мы польскія“, што вырознівала іх ад т.зв. „рускіх“.

Думаю, што аж да канца даўняй Польшчы не выяўляліся тут нацыянальныя праблемы. Нацыі нарадзіла дзевятнаццатае стагоддзе, а царскія праследаванні каталіцтва ўзмацнілі ўплывы польскага: сяляне браліся нават тайна чытаць і пісаць па-польску, каб мець магчымасць карыстацца набожнымі кніжачкамі. У будынку гміны ў Даўгінаве вісеў надпіс: „Курить и по-польски говорить строго воспрещается“.

Пры даваеннай Польшчы паланізацыя набыла імпэту, хоць

(Працяг на стар. 3)




## НАСТОЛЬНІК

Кожны раз, калі матчын настольнік
Засцілаюць — працёрты локцямі,
Сям-там зацыраваны, — ізноўку
Бачу я сваіх блізкіх, знаёмых,
Хто на ім кроіў хлеб, нават чую,
З сёрбаннем буракоў ці заціркі,
Гутарку іх пра даўнія справы,
Пра якія ніхто ўжо не помніць.

Вось чаму не спяшу я ўставаць з-за стала,
На якім бачу матчын настольнік.

**Максім Танк**

**З рэпарцёрскіх запісак**

## ЗОЛАТА ПАД ДАХАМ

У палавіне месяца лістапада запрасілі мяне на ўрачыстыя падлікі 21 конкурсу „Залатая веха-85“. Гэта найбольш трывалае і каштоўнае мерапрыемства па распаўсюджванню прыкладнага гаспадарчага і жыллёвага будаўніцтва, у выніку якога карэнным чынам адмяніўся краявід нашых вёсак.

*

Крыху статыстыкі. За перамогу ў конкурсе „Залатая веха-85“ пажадала спаборнічаць у Беластоцкім ваяводстве звыш паўтысячы гаспадароў. Патрабавальнай ацэнцы конкурснай камісіі, якая працавала пад кіраўніцтвам Рышарда Сяргея, было перададзена 358 новых інвентарскіх будынкаў, 173 адноўленыя і перабудаваныя будынкі і 14 жылых дамоў.

Гэтыя лікі крыху паясняюць даволі змрочны і бесперспектыўны малюнак цяперашняй вёскі на Беласточчыне, адкуль маладыя ўцякаюць у горад, а старыя сяляне дажываюць свой век пад бацькоўскімі стрэхамі, карыстаючыся дзяржаўнымі пенсіямі.

Аказваецца, што ўсё ж-такі знаходзяцца ў нас энтузіясты новага, багатага жыцця ў вёсках, якія рашылі пашукаць сапраўднага золата пад дахам уласных хлеўняў, абораў і аўчарняў. Асмеліліся яны даказаць, што і ў вёсках можна абстаўляваць сабе жыццёвае прыстанішча шмат выгадней, чым ў стандартным гарадскім блоку, дзе ў цябе і ў суседа аднолькава размеркаваны скупы метраж жылой плошчы.

*

Возьмем для прыкладу Уладзіміра Міхальчука з вёскі Кожына ў Бельскай гміне. У час вайны і гітлераўскай акупацыі Кожына праславілася шмат якімі геройскімі подзвігамі, а ў мірны час менавіта Уладзімір Міхальчук дае прыклад сваім аднавяскоўцам, як трэба гаспадарыць, каб жыць багата. Ён заслужаны ветэран і пераможца конкурсаў „Залатая веха“. Двойчы выходзіў пераможцам у агульнадзяржаўных змаганнях у рамках гэтага конкурсу. Магчыма, таму што гэта гаспадар з залатымі рукамі і кемлівай галавой. Пастаянна штосьці папраўляе або аднаўляе ў сваёй

(Працяг на стар. 4)

## НА МЯЖЫ

### АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XVII)

Некалькі тыдняў таму назад я напісаў, што ўсе тыя беларусы, якім удалося ў XVIII ці XIX стагоддзі выбіцца з сялянскага слоя, здабыць асвету або прынамсі выбрацца ў гарады і далучыцца да рабочага класа, дэнацыяналізаваліся. Тут нехта мог бы запярэчыць, спаслаўшыся на няцэлы дзесятак такіх, галоўным чынам, пісьменнікаў, як Ян Чачот, Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Ян Баршчэўскі. Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Лучына і яшчэ некалькі чалавек. Так, былі ў нашай гісторыі такія людзі і мы не можам не зняць перад імі шапкі і не пакланіцца ім за тую добрую справу, якую яны рабілі. А была гэта справа вялікая, бо ў жорсткіх умовах самаўладдзя яны стараліся падтрымаць ранг беларускай мовы і дзейнічаць у карысць беларускага адраджэння. Калі, аднак, думаю я аб гэтых людзях і аб тым перыядзе, калі яны дзейнічалі, дык агортвае мяне жах.

Па-першае, таму, што было іх так страшэнна мала.

Па-другое, таму, што ніводнаму з іх не хапіла поўнай паслядоўнасці ў беларускіх дзеяннях.

Па-трэцяе, таму, што ў істоце ніводзін з іх не перанёс сваіх беларусазнаўчых зацікаўленняў у сферу свайго сямейнага жыцця.

Па-чацвертае, таму што зрабілі яны на беларусазнаўчай ніве аднак замала, безупынна дзелячы сваё натхненне паміж польскай і беларускай стыхіяй.

Трэба сказаць, што была гэта незвычайная катэгорыя людзей, вельмі залежная ад эпохі, у якой ім давялося жыць. Як гэтая незвычайнасць, так і адзначаная ўжо мною непаслядоўнасць праяўлялася, між іншым, у тым, што былі яны па свайму паходжанню беларусамі, па выхаванню палякамі, а па дзяржаўнай прыналежнасці рускімі. У гэтых людзей нацыянальнае і дзяржаўнае моцна блыталася і прынамсі ў гэтым сэнсе многія сённяшнія беларусы моцна падобны на іх.

Зразумела, што такі кангламерат не мог не адбівацца на іх свядомасці, поглядах і ўрэшце і на творчасці. Таму практычна кожны з іх пісаў па-польску і па-беларуску, а некаторыя, як, напрыклад, Вінцук Дунін-Марцінкевіч нават у адным і тым самым творы паслугоўваліся беларускай і польскай мовай.

Рускія чорнасоценныя сілы, якія з нянавісцю глядзелі на найбольш нават анемічныя зрухі нацыянальнага жыцця на так званых акраінах, у тым ліку і на Беларусі, праявы беларускасці і спробы адраджэння беларускай літаратуры акрэслівалі проста: польская інтрыга. Памагала ім у пашырэнні такіх тэзісаў, між іншым, і тое, што ўсе названыя пісьменнікі і дзеячы былі каталікамі і ў штодзённым жыцці дэкларавалі сваю калі не аднакроўнасць, дык сімпатыю і салідарнасць з палякамі.

Ці ў сцвярджэннях чорнасоценцаў былі нейкія, хаця б мізерныя сімптомы рацыі? Быць можа, што былі. Справа ў тым, што калі ў другой палове XVII і ў пачатку XVIII стагоддзяў праводзілася жорсткая паланізацыя Беларусі і калі амаль поўнасцю замерла беларуская літаратура і выгінула беларуская свядомая інтэлігенцыя, не знайшоўся ніводзін мясцовы дзеяч беларускага паходжання, а такіх было не мала, які б моцна і адназначна сказаў слова ў абарону народу, які пачынае гінуць.

(Працяг на стар. 5)

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### СТАРЫ І ЮНЫ ПІНСК

Беларускае Палессе — край блакітных азёр, глыбокіх рэк, некалі непраходных балот. Тут на беразе ціхай і паўнаводнай Піны раскінуўся старажытны славянскі горад Пінск. Першы ўспамін аб ім знаходзіцца ў летапісе 1097 года. Да сярэдзіны XII стагоддзя горад ўваходзіў у склад Тураўскага княства Кіеўскай Русі, пазней стаў сталіцай самастойнага Пінскага княства. Яго быстраму развіццю садзейнічала выгаднае размяшчэнне на гандлёвых шляхах пры зліцці рэкаў Піны і Прыпяці — галоўнай воднай артэрыі Палесся. Яшчэ ў мінулым стагоддзі праз Пінск проста да Брэста быў прарыты Днепра-Бужскі канал, па якім да гэтага часу ходзяць рачныя судны і баржы.

Праняслісся над горадам стагоддзі, запоўненыя міжусобнымі войнамі паміж князямі, нашэсцем татараў у XVI стагоддзі і шведаў у 1706 годзе, падзеямі вайны 1812 года, першай і другой сусветных войнаў.

Сёння Пінск, дзе жыве каля ста тысяч чалавек, адзін з індустрыяльных і культурных цэнтраў Беларусі. Прамысловыя прадпрыемствы горада накіроўваюць ува многія адрасы савецкай краіны і за мяжу сваю прадукцыю: рачныя судны, мэблю, будаўнічыя матэрыялы, штучную скуру, ільнавалакно, мясапрадукты, вырабы народнай творчасці, трыкатаж.

Пінск — базавы цэнтр правядзення меліярацыйных работ у рэспубліцы. Тут створана фірма, аб'ядноўваючая 50 тысяч чалавек і выконваючая ўсе меліярацыйныя работы ў гэтым краі. Меліяратарам Палесся трэба асушыць 2,2 мільёна балотных зямель. Частка з іх увойдзе ў сельскагаспадарчы абарот, іншая будзе выкарыстана пад лес. У меліярацыйных зонах ствараюцца саўгасы, рыбныя гаспадаркі, вадасховішча. Усе меліярацыйныя сістэмы злучацца з часам у адзіны воднагаспадарчы комплекс рэспублікі. Кіраванне ім будзе аўтаматызавана. Ужо ствараецца сістэма „АСУ-ДНЕПР", якая будзе кіраваць шматлікімі шлюзамі, застаўкамі плацін, каскадамі вадасховішч з агульным запасам вады ў 25 кубічных кіламетраў і поўнасцю рэгуляваць яе расход.

Бурлівае індустрыяльнае развіццё горада дало магчымасць накіраваць значныя капітальныя ўкладанні на сацыяльнае і культурна-бытавое будаўніцтва. Кожны год уводзіцца ў эксплуатацыю да 50 тысяч квадратных метраў жылля, будуюцца новыя школы, Дамы культуры, стадыёны, бальніцы.

Пінск называюць горадам-садам. Яго вуліцы веерам разыходзяцца ад берагоў Піны і знікаюць у зеленеючых ускраінах. Прыгожы Пінск сёння, але яшчэ прыгажэйшым будзе заўтра. Цікавы генеральны план раз-

(Працяг на стар. 4)




Zeszyty Naukowe Wydz. Humanistycznego Uniwersytetu Gdańskiego, Slawistyka nr 3. Polskie kontakty z piśmiennictwem cerkiewnosłowiańskim do końca wieku XV. Gdańsk 1982 (druk 1985) ss. 191.

W 1980 roku w październiku w Uniwersytecie Gdańskim odbyła się Międzynarodowa Interdyscyplinarna Sesja Naukowa na temat „Polskie kontakty z piśmiennictwem cerkiewnosłowiańskim do końca XV wieku". Wygłoszone referaty stanowią zawartość niniejszych „Zeszytów Naukowych", a mianowicie:

Program Międzynarodowej Interdyscyplinarnej Sesji Naukowej, s. 7—10.

Otwarcie sesji (Leszek Moszyński), s. 11—16.

Joanna Kalaga, Dorota Górna, Wczesnośredniowieczny kompleks osadniczy w Wiślicy w świetle najnowszych badań, s. 17—24.

Vladimir Vavřinek, Wýznam byzantské misie na Velké Morave pro christianizaci dalš slovanských národou, s. 25—34.

Jan Leśny, Sprawa tzw. Państwa Wiślan. Z przeszłości politycznej obszaru dorzecza górnej Wisły w IX—X wieku, s. 35—46.

Bolesław Kumor, Zagadnienie chrześcijaństwa metodiańskiego w Państwie Wiślan, s. 47—56.

Wacław Schenk, Kult liturgiczny świętych Cyryla i Metodego w Polsce. s. 57—62.

Maria Karpluk, Imiona apostołów i ewangelistów jako świadectwo oddziaływania liturgii słowiańskiej w Polsce, s. 63—68.

Andrzej Vincenz, Krytyczna analiza dokumentów dotyczących kontaktów Polski z misją cyrylometodiańską, s. 69—78.

Ivan Bujukliev, Sledite ot Kirilo-Metodievata tradicija v staropolski, s. 79—90.

Stanisław Urbańczyk, Uwagi o polskich cerkiewizmach: księga, czytać, pisać, s. 91—96.

Janusz Siatkowski, O cerkiewizmach w najstarszej polskiej terminologii chrześcijańskiej, s. 97—106.

Anica Nazor, O pewnych związkach chorwackich głagolaszy z Polską, s. 107—112.

Jerzy Wyrozumski, Benedyktyni słowiańscy w Oleśnicy i Krakowie, s. 113—124.

Józef Hamm, Na tropach głagolicy krakowskiej?, s. 125—132.

Leszek Moszyński, Polskie głagolitika, s. 133—150.

Jan Powierski, Rola dworu jagiellońskiego w kontaktach Polski z kręgiem piśmiennictwa cerkiewno-słowiańskiego, s. 151—156.

Tadeusz M. Trajdos, Treści ideowe i kręgi stylistyczne polichromii bizantyjskich w Polsce za panowania Władysława II Jagiełły (1386—1434), s. 157—172.

Wiesław Witkowski, Polonizmy rzeczywiste i pozorne w tekstach cerkiewnoruskich sprzed XVI wieku, s. 173—182.

Aleksander Naumow, Najstarsze rękopisy cyrylickie w dzisiejszych bibliotekach polskich, s. 183—190.

Zamknięcie sesji (Leszek Moszyński), s. 191.

P.C.




### „САЛДАТЫ ЎДАЧЫ" З БОНА

Мы шмат чулі аб прыгодах амерыканскіх, французскіх, англійскіх „салдат удачы". Не было сярод іх заходніх немцаў. Гэта звязана з радам прычын, перш за ўсё з сумнымі ўрокамі мінулай вайны. Афіцыйны Бон пільна бярог сваю рэпутацыю, адмаўляўся ад прамога ўдзелу ў авантурных ваенных акцыях, строга трымаўся закону, які не дапускаў паставак зброі „за межы НАТО і ў гарачыя пункты планеты".

Аднак часы мяняюцца. Спачатку „утварыліся" праломы ў гандлі зброяй, якая цяпер бясконцым патокам рухаецца з берагоў Рэйна ў блізкія і далёкія краіны. У некаторых з іх (успомнім Аргенціну і Марока) гэтая прадукцыя была выпрабавана ў баі. Знамянальны і зусім свежы прыклад — сенсацыйная здзелка на продаж вялікай партыі ўзбраенняў Саудаўскай Аравіі, якая знаходзіцца, як вядома, таксама ў адным з неспакойных раёнаў. Здзелка прынясе ваенна-прамысловым верхаводам ФРГ 12 мільярдаў марак. А на гарызонце новыя, яшчэ больш спакуслівыя заказы...

Мяркуючы па ўсяму, неўзабаве пачуем і аб заходнегерманскіх легіянерах. Першыя вярбовачныя пункты ўжо расчынілі дзверы, у прыватнасці ў зямлі Бадэн-Вюртэнберг. На іх адбіраліся добраахвотнікі для „работы" ў краінах Блізкага Усходу і Цэнтральнай Амерыкі.

Першы блін, праўда, атрымаўся камяком. Вярбоўшчыкамі зацікавілася зямельнае ведамства па крымінальных справах. Адзін з „камерсантаў" быў нават арыштаваны. Ім аказаўся 31-гадовы афіцэр запасу бундэсвера. Дарэчы, добра вядомы паліцыі Штутгарта: супроць яго ўжо вялося следства ў сувязі з распаўсюджаннем неафашысцкай літаратуры.

У час вобыску на кватэрах эксбундэсвераўца і яго кампаньёнаў быў выяўлены найбагацейшы арсенал: самыя разнастайныя віды халоднай і вогнестрэльнай зброі, салідныя запасы патронаў, украдзеных (ці атрыманых?) з ваенных складаў арміі ФРГ. Тут жа захоўваліся фармуляры і бланкі кантрактаў для будучых заходнегерманскіх „салдат удачы".

Нягледзячы на „непрыемны інцыдэнт", наваяўленыя бізнесмены не сумуюць. Па-першае, улады дзейнічалі, хутчэй, дзеля праформы і ачысткі сумлення. Значыць, неабходна перастроіцца і быць больш далікатнымі. Па-другое, а гэта галоўнае, попыт на „тавар" расце. Пацвярджэнне гэтаму — квітнеючыя фірмы і школы па падрыхтоўцы прафесіянальных забойцаў ува Фларыдзе, Каліфорніі і іншых штатах ЗША. Не павінна быць нястачы і ў валанцёрах. Сярод двух з гакам мільёнаў беспрацоўных ужо напэўна знойдзецца не адна сотня гатовых выпрабаваць лёс...

В. З.

# ВЯРТАННІ ДА САРДЭЧНАЙ КРАІНЫ

(Працяг са стар. 1)



беларуская мова і звычаі яшчэ не былі зменены польскімі. Я да дваццатага года свайго жыцця думаў і гаварыў па-беларуску (вядома, на мове нашага дыялекту). І толькі пасля таго, калі апынуўся я ў польскай арміі, якая ў 1943 годзе фарміравалася ў Савецкім Саюзе, пачаў думаць і гаварыць па-польску. Але сваёй беларусчыны я, ясная справа, не забыў.

**— А як склаўся Ваш лёс пасля расстання з Беларуссю?**

— На працягу 1941-43 г.г. я разам з сям'ёю пражываў на Алтаі, адкуль потым пайшоў у польскую армію, у Касцюшкоўскую дывізію. Дэмабілізаваўся ў 1948 г., будучы ўжо ў чыне капітана. Вярнуўся да сваёй сям'і, якая за гэты час рэпатрыявалася з Алтайскага краю і асела жыць у Валове Шлёнскім. Трэба было мне папоўніць адукацыю, адначасна не перапыняючы работы на пасадзе настаўніка вайсковай падрыхтоўкі. Атэстат сталасці я атрымаў у педагагічным ліцэі для дарослых і, застаючыся на сваёй рабоце, паступіў на аддзяленне рускай філалогіі Вроцлаўскага універсітэта. Пасля заканчэння другога курса далі мне пасаду намесніка асістэнта, ад чаго і бярэ свой пачатак мая навуковая кар'ера.

**— Колькі слоў, калі ласка, пра гісторыю сваіх беларусазнаўчых даследаванняў.**

— Калі чалавек пастарэе, тады ўсё часцей усплываюць у яго памяці дзяцінства і маладосць, тая запаветная краіна шчаслівасці. Успаміналіся калыханкі, дзіцячыя вершыкі, байкі, загадкі, анекдоты, песні... узяўся я ўсё тое запісаць, кансультуючыся ў сваякоў і знаёмых з маіх родных ваколіц, што жывуць цяпер у Польшчы. Шмат і прачытаў на гэтую тэму, каб мець магчымасць канфрантацыі сваіх запісаў з запісамі фалькларыстаў, і каб разабрацца неяк у фальклоры Вілейшчыны, з беларускімі, польскімі, літоўскімі, рускімі ці ўкраінскімі матывамі ў ім. Публікаваў тое шмат-дзе, але першай маёй публікацыяй на гэтую тэму з'явіўся аналітычны артыкул пра беларускую баладу „Аганьбаваная нявестка“ (1978 г.). Цікавіўся я не толькі ўсялякімі праявамі народнай культуры ў краіне свайго дзяцінства, але таксама і рэгіянальнай гісторыяй, асветай, мінулым майго Мікуліна да канца XVIII ст. Ад 1978 г. па 1984 г. напісаў я дваццаць тры артыкулы. А сярод дванаццаці артыкулаў, якія зараз накіраваны ў друк, ёсць прысвечаныя такім тэмам, як: першая сусветная вайна ў памяці маіх землякоў, гаспадарчае і грамадска-палітычнае жыццё ў даваенны час, анекдоты пра мужыкоў, асенне-зімовыя і вясенне-летнія звычаі, варажба, народная медыцына, музыка і танцы, і т.п. Указваю на сувязі беларускага з польскім, украінскім ці рускім.

**— Хто Вам дапамагае ў Вашых даследаваннях?**

— Шмат-хто, сваякі і знаёмыя з даўняй Даўгінаўшчыны, іншыя людзі з таго староння, з якімі пазнаёміўся я. У Вроцлаве ў мяне шэсць такіх чалавек, а ў Валове Шлёнскім — сем, іншых жа — больш дваццаці. Наведваю іх, перапісваемся. Пражываюць яны ў Варшаве, Пазнані, у Коле, Дамброве Гурнічай і ў шэрагу мясцовасцяў у ваяводствах Зялёнагурскім, Пазнанскім, Пільскім, Гданьскім, Шчэцінскім, Кашалінскім. Дапамагае мне і мой дзядзька, што застаўся жыць у нашым Мікуліне, — яму ўжо 88 гадоў! — і іншыя жыхары цяперашніх Мікуліна і Даўгінава. Траіх маіх памочнікаў, на жаль, памерла ўжо.

**— Якую ролю адыгрывае ў Вашай актуальнай дзейнасці беларускі фальклор?**

— Я працую ў Інстытуце славянскай філалогіі Вроцлаўскага універсітэта, дзе робім намаганні, каб апрача рускай філалогіі мелі сваё месца іншыя славянскія філалогіі, напрыклад, у выглядзе дадатковых заняткаў для зацікаўленых імі студэнтаў русістыкі. Адбываюцца серба-харвацкія і ўкраінскія лектараты. У бліжэйшы час наладзім беларусазнаўчую студыю, у якой апрача беларускай мовы будзе выкладацца гісторыя Беларусі, яе фальклор і літаратура. Ужо ад 1974 г. я прапаную нашым магістрантам тэмы па беларускім фальклоры. Сам я напісаў кароткі падручнік беларускага фальклору, надрукаваны ў 1983 г. выдавецтвам Вроцлаўскага універсітэта. Добра служыць ён як нашым русістам, так і паланістам, якія займаюцца фальклорам. Палякі штораз мацней цікавяцца Беларуссю, у чым пераканаўся я пасля таго, як нядаўна з'явіўся з друку мой нарыс па гісторыі беларускай літаратуры да канца XVIII ст.

**— Якія ў Вас далейшыя планы?**

— Буду працаваць як над беларускімі прымаўкамі і выслоўямі, так і над польскімі ў маіх родных ваколіцах. Разам з тым усё вяртаюся да тэмаў, над якімі ўжо некалі пасядзеў. Думаю пра манаграфію майго рэгіёна, каб такім чынам не застацца ў даўгу перад сардэчна блізкай мне краінай майго дзяцінства і маладосці.

Інтэрв'ю ўзяў **Алесь Барскі.**

# ПРА ГІСТАРЫЧНАЕ „УЧОРА”

Нарэшце апублікавана кніжка, якую даўно чакалі: **„Шматнацыянальная Рэчпаспалітая“*** Ежы Тамашэўскага. Выданне яе пахвальна сведчыць пра разумную палітыку ў варшаўскім *„Чытэльніку“* (мог жа павярнуцца задам да гэтай, усё яшчэ рызыкоўнай тэматыкі!). Самога ж аўтара не трэба нашаму чытачу асабліва рэкамендаваць: нам, польскім беларусам, вядомы ён, як той, хто ўслед за Равічам і Ловелем вывеў беларускую праблематыку на шырокія воды польскай пасляваеннай публіцыстыкі, сур,ёзна і глыбока, і шмат дапамог некаторым даследнікам (напрыклад, заслужаным будаўнікам нашай гістарычнай памяці Аляксандры Бергман і Юрыю Туронку).

Што разумець пад паняццем, вынесеным на загаловак кніжкі? — Даваенную Польшчу, тую польскую дзяржаву, у якой самі палякі нярэдка былі малюткай меншасцю ў *„крэсавых“* яе рэгіёнах, або і наогул не існавалі на тэрыторыі шматлікіх гмінаў. Кожны трэці — скромна лічачы — грамадзянін тадышняй дзяржавы са сталіцай у Варшаве быў непаляк. Тамашэўскі аналізуе ўсё тое з рэдкім у нас аб'ектывізмам, адначасна не губляючыся ў дэталях, канцэнтруючыся на найгалоўным. Цэльна асвятляючы мінулае, характар, а таксама актуальнае становішча народаў, што насялялі санацыйную Польшчу, ён указвае пры гэтым на прычыны варожасці між імі, знакаміта фармулюе дурноту або і абсурд нацыяналістычных забабонаў ці міфаў. Хочацца сказаць і так: рэабілітуе ў польскіх вачах адраджэнне беларускага, украінскага, літоўскага, славацкага народаў, якія да гістарычна нядаўняга часу прызнаваліся не больш як *„падгатунак польскай нацыі“* на статусе этнаграфічных групаў накшталт гураляў, мазураў ці кашубаў (з другога ж боку, расійскія цемрашалы глядзелі на беларусаў і ўкраінцаў як на такі ж *„падгатунак“*, але рускай нацыянальнасці). Вось красамоўныя назвы раздзелаў: *„Беларусы — не прызнаны народ“*, *„Украінцы — пераможаны народ“*, *„Яўрэі — народ рэвалюцыянераў“* або *„Яўрэі — народ, які шукае айчыны“* (літоўцы і славакі былі амаль невядомымі). Пра палякаў: *„Палякі — адроджаны народ“*.

Гэтую кніжку трэба проста прачытаць, купіць і прачытаць, што не акажацца надта цяжкім з увагі на яе даволі вялікі, бо трыццацітысячны тыраж. Тым не меней, карыстаючыся правамі рэцэнзента, затрымаюся я тут ужо толькі на адным, на яе беларускім аспекце, пра які і выкажуся трохі шырэй. Беларусы як маса без жыццёвых перспектыў жылі ў гэтай Другой Рэчыпаспалітай як народ мала што не прызнаны, але, натуральна, і радыкальны (раздзел: *„Беларусы — народ радыкалаў“*).

Прафесар Е. Тамашэўскі слушна заўважае, што немагчыма вывучаць Беларусь і беларускае, не вывучаючы Польшчы і польскага. Абодва народы некалі ўхвалілі супольную дзяржаву, імперскага маштабу Першую Рэчпаспалітую, у якой беларуская Літва як слабейшы

(Працяг на стар. 5)

# ХРОНІКА

6 XI 1985 г. адбылася сустрэча дыскусійнага клуба ПРОН пры гарадскім гуртку БГКТ у Беластоку. Сустрэчу вёў мгр Антон Міранович, а з дакладам на тэму „Беларуская драўляная архітэктура“ выступіў мгр Мікола Лобач.

8 XI 1985 г. у Хільмонах адбыўся сход гуртка БГКТ, на якім было прынята 3 новых членаў. Прысутныя на сходзе вырашылі арганізаваць летам 1986 г. у Хільмонах народны фэст з нагоды 30-годдзя БГКТ і „Нівы“.

9 XI 1985 г. драмгурток Беластоцкага аддзела БГКТ выступаў перад жыхарамі Вярхлесся з пастаноўкай „Ажаніся-веселіся“.

10 XI 1985 г. адбыўся сход гуртка БГКТ у Аўгустове (Сувальскае ваяводства). На сходзе прынялі ў рады БГКТ адну асобу. Прысутныя ў адрас ГП БГКТ накіравалі дзве прапановы: стварыць пры ГП секцыю юрыстаў і арганізаваць летнія лагеры адпачынку для беларускіх дзяцей у БССР. У фонд пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы ўдзельнікі сходу перадалі 1500 злотых.

12 XI 1985 г. у Арэшкаве праводзіўся сход гуртка БГКТ. Удзельнікі сходу вырашылі рэактываваць дзейнасць драмгуртка.

14 XI 1985 г. у Чыжах адбыўся пленум праўлення аддзела БГКТ, на якім абмяркоўвалася праца гурткоў таварыства ў вясковым асяроддзі. У пленуме ўдзельнічалі: Кастусь Майсеня, намеснік старшыні ГП, і Аляксандр Іванюк — член Прэзідыума ГП.

16 XI 1985 у Кнаразах адкрылі новую вясковую святліцу. З гэтай нагоды з канцэртам выступіў бельскі хор „Васілёчкі“.

21 XI 1985 г. на пленуме Праўлення аддзела БГКТ у Нарве ацэнена выкананне гадавога плана. У дыскусіі многа месца адведзена развіццю культурнай дзейнасці ў вясковых клубах, а таксама адзначэнню юбілею 30-годдзя БГКТ і „Нівы“ ў наступным годзе.

23 XI 1985 г. адбыўся сход гуртка БГКТ у Сынкоўцах (гм. Новы Двор) з удзелам старшыні аддзела БГКТ у Дуброве Беластоцкай — Аркадзя Сул[illegible] члена праўлення аддзела М[illegible]лы Жданука. Прысутныя вырашылі стварыць 9-ціасабовы мужчынскі харавы калектыў, які ўзначальваюць Анатоль Гічан і Ануфрый Марчук.

**В. Луба**

## „БЕЛАВЕЖЦЫ“ ПАШЫРАЮЦЬ РАДЫ СПП

Яшчэ адзін „белавежац“ прыняты ў Саюз польскіх пісьменнікаў. На гэты раз — наш рэдакцыйны калега Мікалай Гайдук. Толькі ў апошнім годзе двое „белавежцаў“ набылі членства СПП. Тэмп асвойвання „белавежцамі“ польскай пісьменніцкай арганізацыі высокі.

Так трымаць!




# БРАВА!

Я палітыкай не займаюся. Хлопцы — так. Я — не! Раз у тыдзень (дзеля чытання „Нівы") адрываюся ад роздумаў над глыбінёй вершаў Надзі Артымовіч. І таму ведаю, як хлопцы бушуюць на палемічнай ніве (ніва напісана без чужамоўя і з малой літары — увага, карэкта!) — Барскі, Маўчун, Куптэль, Петручук, ну і адна дзяўчына, „Аўрора". А можа гэта „Аўрора" толькі так падпісваецца, а ў сапраўднасці гэта нейкі хлопец з Белавежскай пушчы? Апошнім часам далучыўся яшчэ адзін палеміст. Па змесце яго палемік бачу: не абы-які туз, Аляксандр Анташэвіч. „Ніву" чытаю нумар у нумар ад моманту, калі яна адрадзілася ў 1982 годзе. Забылі? Брыдка. „Ніва" адрадзілася, і ў ёй паявіліся карэспандэнцыі А. Маўчуна, М. Куптэля, А. Барскі пісаў раней, а „Аўрора" яшчэ спакойна плавала па марах і акіянах і аб рэвалюцыі не думала. І так некалькі год адрываюся ад роздумаў, але не чытаў палемікі А-дра Анташэвіча. Што там палемік, думак адкрыўчых, відаць, арыгінальных. Ці ён хадзіў яшчэ ў школу і таму не пісаў? А можа раздумваў над словамі-песнямі вершаў З. Сачко, што з Мора, а тэпэр жывэ ў Біэльску, і таму бракла часу.

Я не займаюся палітыкай, але люблю чытаць адгалоскі А. А. Узровень іх высокі і думкі шчырыя. Дасталася хлопцам у адгалосках А.А. („Ніва" № 47). Нарэшце нехта смела даў прыкурыць А.Б., М.К., А.М. (Я б „Аўроры" не кранаў). Бо і разліўся лёскатам аб рэнегатах той А.Б., аж гідка слухаць. І праўду піша Анташэвіч, калі накіроўвае лёскат у бок „Кантрастаў". Там жа маем свайго чалавека ў асобе Міхася Шаховіча, і ён надрукуе. Няхай таксама чытаюць беластаччане ў „Кур'еры падляшскім", якія яны рэнегаты. Туды пішы, мілы А.Б., „Аб дзяржаўнасці і нацыянальнасці".

Я палітыкай не займаюся. Можа таму, што заваяваў мяне „запах сумных жанчын", „гэты запах галодны і сыты" (ой, галодны!). Але цешыць мяне гэтая палеміка. Няхай уключаюцца ў яе іншыя са сваімі думкамі, не толькі А. Маўчун, М. Куптэль і А. Б. (відавочна). Гэтая палеміка то чысцейшае фармаванне нацыянальнай свядомасці маладых людзей. Бо яны гэта чытаюць, тую соль кожнай газеты.

Як думаеце, дарагія чытачы, ці я заняўся палітыкай, калі напісаў тое, што вы вышэй прачыталі? Але вяртаюся да паэзіі Надзі Артымовіч.

**Міхась Махнацкі**



У адным з новых мікрараёнаў Пінска.

(Працяг са стар. 2)

## СТАРЫ І ЮНЫ ПІНСК

віцця Пінска да 2000 года. Гістарычная зона зойме значную частку цэнтра горада. Суседства старога і новага прыдае Пінску непаўторнае архітэктурнае аблічча. Пяць стагоддзяў стаіць над Пінай унікальны твор дойлідаў — францысканскі касцёл. Побач велізарны масіў калегіума езуіцкага манастыра. Тут прадугледжваецца пасля рэстаўрацыі размясціць Беларускі дзяржаўны музей сацыялістычнага пераўтварэння Палесся. У будынку былога касцёла Карла Барамеуша адкрыецца арганная канцэртная зала. У палацы Бутрымовіча, яшчэ адным помніку архітэктуры, — размесціцца палац піянераў.

Пінчане свята захоўваюць памяць тых, хто змагаўся з ворагам у грозныя гады Вялікай Айчыннай вайны. На брацкай магіле воінаў і партызан, загінуўшых за вызваленне Пінска, устаноўлены велічны манумент. На сродкі, сабраныя жыхарамі горада, пабудаваны помнік слаўнай дачцы беларускага народа Герою Савецкага Саюза Веры Харужай. Шматлікія вуліцы Пінска названы імёнамі адважных воінаў і партызан.

Кожны год у дзень вызвалення Пінска ад фашысцкіх захопнікаў праводзіцца свята мастацтваў „Світанне над Пінай". А ў лютым усе жыхары горада становяцца ўдзельнікамі аднаго з самых любімых народных гулянняў — свята провадаў зімы.

Цесна перапляліся ў Пінску мінулае і сучаснае, учарашні і сённяшні дзень.

**Анна Махавікова**
**Фота Міхаіла Жылінскага**

## В. ПЕТРУЧУК У БЕЛЬСКУ

У бельскім клубе БГКТ прайшла чарговая аўтарская сустрэча. У пятніцу вечарам 29 лістапада 1985 г. прыехаў сюды ўсім добра знаёмы (дзякуючы фельетонам у „Ніве") Васіль Петручук. Расказаў ён пра сваё жыццё, якое не скупіла ў дзяцінстве і маладосці перажыванняў. Сцвердзіў, што можа таму пачаў пісаць пра гэта ўжо ў сталых гадах!

Горкім было пры санацыі дзяцінства хлапчука з беларускай вёскі Грабавец, што каля Дубіч Царкоўных. Быў босым пастушком, які рос у голадзе і холадзе. Калі бачым цяпер перад сабой элегантна апранутага, поўнатварага чалавека, нават цяжка паверыць, што гэта той самы, што зведаў сіроцкае гора. Да 1939 года, хаця было яму тады 13 гадоў, ніводнага дня не быў у школе. Пры Савецкай уладзе (1939-41 г.) упершыню меў магчымасць вучыцца чытаць і пісаць на роднай мове, а нават паглядзець кіно. Пасля вайны пачаў службу ў Народным войску польскім. Адчуваючы дабрадзействы народнай улады, стаў яе палымяным прыхільнікам. Закончыў афіцэрскую школу. Пачаў пісаць. Былі гэта вершы

(Працяг на стар. 7)

## ЗОЛАТА НАД ДАХАМ

(Працяг са стар. 1)

гаспадарцы. У гэтым годзе прызнанне конкурснай камісіі заваяваў яго збожжавы склад, спалучаны з сушылкай для сырога зерня, якое паступае проста ад камбайнаў.

Летам гэтага года, калі ў Кожыне адбывалася ўрачыстасць па ўстанаўленню помніка тутэйшым партызанам, я пабываў таксама і ва Уладзіміра Міхальчука. Звонку яго панадворак нагадвае нейкае прамысловае прадпрыемства. Гаспадар, вельмі ветлівы ў адносінах да гасцей, ахвотна паказваў і паясняў усе свае будаўнічыя навінкі, якія аблягчаюць яму працу і дазваляюць ў адзіночку, з дапамогай толькі жонкі, апрацоўваць каля 50 гектараў зямлі і разводзіць высокатаварную свінагадоўлю. Мяркую, што варта яго наведаць, асабліва цяпер, зімою, калі ва Уладзіміра Міхальчука крыху больш часу. Я дагаварыўся з ім на сустрэчу вясною наступнага года.

*

Сярод пераможцаў сёлетняга конкурсу „Залатая веха" сустрэў я таксама маладых сялян з прыгранічнай вёскі Баброўнікі. Гэта Яўгеній і Барбара Бароўскія.

— Мы — асаднікі! — горда заявіла пані Барбара ў час нашага знаёмства. Я з зацікаўленнем паглядзеў на яе, з выгляду зусім не вясковую, чарнявую жанчыну і недаверліва ўсміхнуўся.

— Адкуль вы завандравалі аж на канец Польшчы?

Аказваецца, што вандраваць ім далёка не давялося. Барбара — з Гарадка, а бацькі і дзядулі Яўгенія Бароўскага выводзяцца менавіта з Баброўнікаў. Пазнаёміліся яны ў Беластоку. Яўгеній пасля заканчэння прафесіянальнай школы працаваў механікам на адным з беластоцкіх прадпрыемстваў, а Бася вучылася ў гастранамічным тэхнікуме. Пазнаёміліся і пакахалі адзін другога. Гэта і цяпер яшчэ відаць у іх адносінах, хаця сям'я маладых сялян паспела ўжо напоўніцца дзецьмі.

Тады якраз пачалі ў нас гаварыць пра асадніцтва ва ўсходніх раёнах Беласточчыны, і Яўгеній, з падтрымкай Басі, рашыў спрабаваць. Цяпер за ім лічыцца 49 гектараў уласнай зямлі (бо больш нельга, не дазваляе дэкрэт аб зямельнай рэформе) і 45 гектараў арэнды з дзяржаўнага фонду зямлі. Разам 94 гектары.

Узнагароду ў конкурсе „Залатая веха-85" заваявала іх новая хлеўня, з якой толькі ў гэтым годзе пайшло да далейшай гадоўлі і адкорму 130 пародзістых свінаматак. Вартасць прададзенай дзяржаве прадукцыі з іх гаспадаркі ў 1984 годзе склала 2,3 мільёна злотых.

— У гэтым годзе, — заяўляе малады гаспадар, — даставілі мы дзяржаве жывёлы і збожжа больш як на 4 мільёны злотых.

Проста не верыцца ўсяму гэтаму. Яны такія скромныя, маладыя, дробненькія, з выгляду амаль дзеці — і гэтыя мільёны! Трэба ж не абы-якой адвагі, каб імі варочаць! Адной толькі дзяржаўнай пазыкі ў іх амаль 20 мільёнаў злотых. Гэтыя мільёны пайшлі на хлеўню, на дом, на тры трактары і камбайн... У даваенны час называлі б іх звы-

# ПРА ГІСТАРЫЧНАЕ „УЧОРА"

(Працяг са стар. 3)

партнёр не магла не адчуць магутных уплываў ад Захаду, праз кракаўскае пасрэдніцтва перш за ўсё. Гэта не абы-якое пытанне паўтысячы гадоў іх ўзаемадзеянняў. Але Тамашэўскі павінен быў, хоць пару словамі пайсці далей за эпоху Ягайлавічаў, менавіта ў веліч Полацкай Зямлі, якая дала пачатак тысячагадовай традыцыі дзяржаўнасці Белай Русі! Гаворачы пра бацьку нашай рэнесансавай культуры, пра Францішка Скарыну, неабходна падкрэсліць невыпадковасць ягонага паходжання з Полацка якраз, сярэдневяковай гарадской метраполіі канкурэнцыйнай Ноўгараду ды Кіеву, а і ў той „*залаты век*" няшмат у чым уступаючай, скажам, буйнаму Кракаву (Вільня ўсяго бралася расці да ўзроўню сталіцы Вялікага княства Літоўскага, якое знаходзілася ў федэрацыі з Карунаю Польскаю). Тамашэўскі абмежаваўся, аднак, да згадкі пра Сымона Буднага, зыходзячы, відаць, з таго, што гэтая постаць займае сваё значнае месца і ў польскай культурнай свядомасці.

Услед за ўстарэлымі цяпер апрацоўкамі па гісторыі Беларусі, у кніжцы „*Шматнацыянальная Рэчпаспалітая*" паўтораны несапраўдны погляд пра нараджэнне новай беларускай палітычнай думкі як з'явы надыходзячага дваццатага стагоддзя. А гэта не так. Яе спелыя формы знаходзім у дзейнасці групы Ігната Грынявіцкага, забойцы імператара Аляксандра II, у Беларускай фракцыі славутай „*Народнай волі*" ды публіцыстыцы падпольнага часопіса „*Гоман*" (1884 г.). Спадчына паўстанскага дыктатара Кастуся Каліноўскага, а раней беларускіх пісьменнікаў, гуртуючыхся вакол Адама Кіркора і Сыракомлі, несумненна, з'явілася тым грунтам, на якім вырасла ідэя сучаснай Беларусі з яе мінулым як ядром Вялікага княства Літоўскага (паняцце „*літвін*" канчаткова зменена паняццем „*беларус*"). Грынявіцкі і „*гоманаўцы*" гэта рэарыентацыя на саюз з Расіяй, хоць т.зв. „*польская арыентацыя*" ізноў ажыла да істотнай сілы ў беларускім руху праз сорак гадоў пасля, у шумны дзевяцьсот дваццаты, калі польская армія пераўтварылася ў самы ўдарны антысавецкі мілітарны фактар.

Адчуваецца, што Ежы Тамашэўскі найбольш пэўным крокам праходзіць праз міжваенне, і асабліва ў сферы яго эканамічнай гісторыі. Залішне асцярожна аднёсся ён да ацэнкі Усебеларускага Кангрэса. Затое знакаміта, амаль некалькімі штрыхамі ўдалося Тамашэўскаму паказаць складанасць таго перыяду, які вяжам мы з годам 1920-ым, часам свядомую тады або прымушаную блізарукасць польскіх палітыкаў у беларускім пытанні (і не толькі ў беларускім). Палітычны ўзровень польскага грамадства, якое не вызвалілася з комплексаў былога імперскага народа, кінутага вобземлю расійскімі імператарамі, перакрэсліваў планы ўсходніх саюзаў, прадыктоўваў ісці на канфрантацыйны стык з веліканам Расіі (цалкам „*зялёнымі*" у палітыцы беларускімі лідэрамі „*бельведар*" маніпуляваў дарэшты адкрыта, калі параўнаць яго ігру на Украіне ці ў Прыбалтыцы, інтарэсы якой, зрэшты, абараняла Нямеччына, здавён-даўна прысутная ў гэтай колішняй Ліфляндыі). — Аўтар, як мне здаецца, памылкова падае дату пакутнай смерці Браніслава Тарашкевіча, менавіта 28-га, замест 29 лістапада 1938 г.

„*Шматнацыянальная Рэчпаспалітая*" наводзіць сумны роздум аб тым, як Польшча, адроджаная ў імя свабоды, не дарасла да яе, да задання эпохі. З некалі прыгнечанай пераўтварылася яна ў прыгнятальніка. Да вясны 1939 г. беларускае ў ёй было высечана пад корань і амаль дачыста, нават беларускіх каталіцкіх ксяндзоў пазбавілі варункаў дзеля сяк-так нармальнай актыўнасці. Гэтая кніжка стварае добрасумленны вобраз нялёгкага сужыцця народаў у адной айчыне і прапануе чытачу быць справядлівым. А нам, беларусам, бы ў напамін, цытуе паліцэйскі рапарт ад 1928 г.: „*Барацьба паміж беларускімі арганізацыямі ёсць нечым непараўнальным. Такога хаосу, непаслядоўнасці, а перш за ўсё ненавіслівасці няма ў ніякай іншай нацыянальнай групоўцы*".

**Аляксандр Анташэвіч**

* Jerzy Tomaszewski, „Rzeczpospolita wielu narodów". W-wa 1985. Cena 20[illegible] zł.

(Працяг са стар. 2)

### НА МЯЖЫ

му такія галасы раздаліся ў XIX стагоддзі? Адну з прычын трэба бачыць ў распаўсюджванні рамантызму, які ў народнасці ўбачыў найвялікшыя культурныя і духоўныя каштоўнасці. А раз народнасць на беларускай зямлі была беларуская, дык ясна, што трэба было да яе звяртацца. Але можна было да яе звяртацца толькі так, як гэта рабіў Міцкевіч — выкарыстоўваць у сваёй творчасці і канец на гэтым. Знайшліся аднак людзі, якія пайшлі далей. Яны не толькі трактавалі беларускі фальклор як інспірацыю, але ўзялі беларускую мову як інструмент сваёй творчасці. І гэта быў, несумненна, вялікі крок наперад. Ці ўсе тыя, хто так паступіў, кіраваліся шчырымі беларускімі ці прабеларускімі пачуццямі? Не ўсе. Бо ці ж можна такія пачуцці прыпісваць Аляксандру Рыпінскаму, які напісаў адзін беларускі верш і выдаў у Парыжы кніжку „Беларусь", але ў гэтай жа кніжцы ва ўступе напісаў, што беларускае дзіця спачатку павінна навучыцца вымаўляць слова „Polska", а толькі пазней слова „мама". І гэтую ж кніжку прысвяціў ён „Tym kmiotkom białoruskim, którzy na początku nauczą się po polsku mówić, a później myśleć". Зразумела, што ў адносінах да беларусазнаўчых зацікаўленняў такіх людзей чорнасоценнае акрэсленне „польская інтрыга" ў нейкай там меры было абгрунтаваным.

Якія вывады можна зрабіць з беларускага XIX стагоддзя? Вельмі простыя. Нацыянальная культура і нацыянальная мова не могуць нармальна развівацца без нацыянальнай дзяржаўнасці.

**Алесь Барскі**

### СУСТРЭЧЫ НА АРЛЯНШЧЫНЕ

Шчыты. 23 лістапада 1985 г. у вясковым клубе адбыўся сход мясцовага гуртка БГКТ. Сабралася каля 30 чалавек. Намеснік старшыні Арлянскага аддзела БГКТ Анна Шыманская пазнаёміла прысутных з праграмай дзейнасці ў аддзеле. Прадставіла арганізацыйныя справы, якія мелі б актывізаваць працу ў гуртку. Журналіст „Нівы" Ян Мордань расказаў пра творчасць літаратурнай групы „Белавежа" Чытаў некаторыя творы. Удзельнікі сходу прасілі, каб да іх прыязджалі з канцэртамі мастацкія калектывы, а таксама нашы пісьменнікі і журналісты.

Кашалі. Тут прайшла 24 лістапада 1985 года сустрэча з Надзеяй Артымовіч і Васілём Петручуком. Мясцовы клуб быў запоўнены жыхарамі вёскі ў розным узросце. В. Петручук займальна гаварыў аб матывах сваёй творчасці. Падкрэсліў значэнне замілавання да роднай старонкі.

Надзея Артымовіч прачытала некалькі сваіх вершаў пра „грудку роднай зямлі". Расказала аб сваім творчым шляху.

Слухачы былі зацікаўлены творчасцю аўтараў і слухалі з хваляваннем творы на беларускай мове. Прасілі, каб такія сустрэчы былі часцейшымі.

**Я. М.**

чайна памешчыкамі. Цяпер яны адважныя і прыкладныя гаспадары. Запрасілі яны мяне ў госці і я ахвотна паеду да іх у Баброўнікі, каб уласнымі вачыма паглядзець, а затым і расказаць людзям, як родзіцца золата пад дахам кемлівых гаспадароў.

*

У кампаніі ўдзельнікаў урачыстых падлікаў конкурсу „Залатая веха-85" паехаў я пазнаёміцца з некаторымі ўзнагароджанымі будынкамі і іх уласнікамі. Паспелі мы пабываць у двух мясцовасцях: на хутары Златарыя ў Пятра Астроўскага, які атрымаў узнагароду за новы кароўнік, і ў Яцэка і Юркі Цыльвікаў з Кнышына, якія ўзнагароджаны за жылы домасабняк. Гэта ў рамках конкурсу „Дом маіх летуценняў", які адначасова з конкурсам „Залатая веха" арганізуе Саюз вясковай моладзі.

Абора ў Пятра Астроўскага разлічана на 35 штук. Цікавая яна тым, што пабудавана на падмоклым грунце. І таму замест звычайнага фундаменту канструкцыя не абапіраецца на сістэме спецыяльных жалезабетонных паляў. Усё іншае, як у кожнай сучаснай механізаванай аборы, дзе ёсць месца для халадзільніка на малако і для вадаправода і для падручнага кармавога складу...

Бацька і сын, Яцэк і Ежы Цыльвікі займаюцца гадоўляй качак і гусей. Кожны год пастаўляюць дзяржаве па 60-70 тысяч штук гэтай птушкі. Удзельнікаў нашай экскурсіі, аднак цікавіў у першую чаргу цудоўны дом, які Цыльвікі пабудавалі на патрэбы сваёй сям'і. Фактычна гэта трохпавярховы асабняк (высокая жылая піўніца, партэр і таксама жылое паддаша), размерам 14,30x14,20 м. Шэсць пакояў, 2 ванныя, 2 уборныя, гараж, а нават і ўласная электрычная саўна. Падлога — паркетная, з яснага дрэва, усе сцены — з базерыі, у драўлянай абліцоўцы, ва ўсіх пакоях — дарагія дываны і мэбля, зробленая па заказу... Адным словам, глядзець, любавацца і зайздросціць. Толькі — чаго менавіта зайздросціць?

— Тут усё з працы нашых рук! — рашуча заяўляе старэйшы з Цыльвікаў.

— А можа ў вас нейкі сваяк у Амерыцы? — недаверліва пытае нехта з гасцей.

— Сваякоў за мяжою мы не маем, — гаворыць малодшы Цыльвік. Тут усё за залатоўкі, запрацаваныя на ўласнай гаспадарцы.

*

Вяртаюся дамоў з думкай, што золата, сапраўды, ляжыць амаль на дарозе. Толькі трэба адвагі, розуму і працы, каб падняць яго.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Віла Яцэка і Юркі Цыльвікаў з Кнышына. Яе вартасць ацэньваюць на нейкіх 50 мільёнаў злотых.

# ПАМЯЦІ БЕРВЯЧОНКА

У верасні г.г. у Гайнаўцы, на скверыку, які знаходзіцца на рагу вул. Варынскага і вул. 1 Мая, быў урачыста адкрыты валун з мемарыяльнай дошкай, які будзе ўвекавечваць імя Баляслава Бервячонка — гераічнага абаронцы горада ў верасні 1939 г., двухкратна ўзнагароджанага Крыжам храбрых і пасмяротна павышанага да рангу ўзводнага.

Варта ведаць, што Баляслаў Бервячонак — сын беларускай зямлі. Нарадзіўся ў 1916 г. на Глыбоччыне, у вёсцы Варанцы. У лістападзе 1937 г. прызвалі яго ў армію. Прызначаны ў 3 полк конных стралкоў у Ваўкавыску, у лютым 1938 г. трапляе ў унтэр-афіцэрскую школу кулямётчыкаў Навагрудскай брыгады кавалерыі ў Баранавічах. У час вайсковай навукі папаўняе пачатковую адукацыю. У верасні 1939 г. са сваім палком адпраўляецца на фронт. Узводам, у якім Б. Бервячонак з'яўляецца камандзірам першага кулямёта, камандуе вахмістр Цэзары Макарэвіч. Б. Бервячонак ад першых дзён баёў праяўляе адвагу. 15 верасня знішчае 4 нямецкія браневікі, крыху раней паспяхова адбівае атаку 2 варожых самалётаў. 17 верасня, бароначы Гайнаўку, атрымоўвае смяротны стрэл у галаву. Нежывога салдаты адвозяць на фурманцы ў сяло Буды і тут яго хаваюць. Пасля вайны магілай Бервячонка апякуюцца жыхары сяла і школьная моладзь з Гайнаўкі. Аднак восенню 1973 г. здараецца выпадак прафанацыі месца вечнага адпачынку гераічнага маладога салдата. Пасля гэтага здарэння астанкі капрала распараджэннем адпаведных улад у Варшаве эксгумуюцца і перавозяцца на ваенны могільнік у Беластоку. У маі 1974 г. на месцы магілы ў Будах паставілі невялікі абеліск з мемарыяльнай дошкай і абгарадзілі яго.

Такім чынам жыве сярод жыхароў Гайнаўшчыны памяць аб адважным сыне Глыбоччыны.

Тэкст і фота **Пятра Байко**



Абеліск на месцы магілы Б. Бервячонка ў Будах.



Валун у Гайнаўцы, прысвечаны памяці Б. Бервячонка.

(Працяг са стар. 4)

## В. ПЕТРУЧУК У БЕЛЬСКУ

патрыятычнага характару. У сямідзесятых гадах пісаць пачаў прозай на роднай мове і друкаваўся на старонках „Нівы". У сваіх творах аўтар расказвае пра сваё жыццё, раскрывае рэчаіснасць беларускай вёскі на Беласточчыне перад вайной. Піша таксама фельетоны, у якіх высмейвае благія схільнасці чалавека, імкненне да выгоды і толькі матэрыяльнага дастатку.

Апрача „Нівы", апавяданні В. Петручука друкаваліся ў альманаху „Белавежа 3", у беларускіх календарах, а таксама ў польскіх часопісах „Матывы" і „Кантрасты". Аўтар падрыхтаваў да друку дзве кніжкі: на беларускай мове і ў перакладзе на польскую мову, якія чакаюць выдання ў ГП БГКТ і выдавецтве „Чытэльнік".

Спатканне прайшло ў мілай і сардэчнай атмасферы. Слухачы падкрэслівалі карыснасць такіх сустрэч, дзе можна бліжэй пазнаёміцца з пісьменнікам і яго творчасцю. Звярталі ўвагу, што аўтарскія сустрэчы надта патрэбныя школьнай моладзі. На жаль, на гэты раз не было ніводнага вучня з Беларускага ліцэя.

Дзякуючы стараниям інспектара БГКТ на бельскі раён Анны Бжазоўскай у клубе адбылося ўжо некалькі аўтарскіх сустрэч (аб якіх пісалася ў „Ніве"). На жаль, ніколі ў іх не прымалі ўдзел члены праўлення гарадскога гуртка і Бельскага аддзела БГКТ. А яны самі дамагаліся, каб кожную пятніцу вечарам праводзіць цікавыя сустрэчы. Колькі было дыскусій у гэтай справе! Чаму цяпер гэтыя дыскутанты абыякава падыходзяць да сустрэч? Ці дзейнасць у клубе павінна зводзіцца да сходаў з дыскусіямі, якія нічога карыснага не ўносяць? Трэба, каб дзеячы таварыства ў Бельску як найхутчэй зразумелі значэнне культурна-асветнай дзейнасці сярод грамадства. Хопіць ужо абражацца, кожны сам павінен актыўна ўключыцца ў папулярызацыю беларускага слова і культуры.

**Ян Мордань**

згадзіўся.

— Разам са мною пайшлі два партызаны, — успамінае Дзмітры Макараў. — Адзін — звычайны мужыцкі юнак, родам недзе з Шарашэўскага раёна, прозвішча якога я, на жаль, забыў. Памятаю толькі, што ён даволі добра арыентаваўся, як найбольш бяспечна прабрацца нам на захад. Другі з маіх партызан быў палякам па нацыянальнасці, паравозны машыніст, пры савецкай уладзе працаваў у паравозным дэпо ў Смаленску. Яго я добра запамятаў. Гэта Баскінскі Сцяпан Эдуардавіч.

Вось і зышліся: рускі, беларус і паляк. Ці думаў Дзмітры Макараў, што ў гэтакім саставе яго баявой групы тоіцца проста сімвалічны сэнс, які выяўляе братнюю еднасць гэтых славянскіх народаў? Нічога ён аб гэтым мне не гаварыў. Падазраю, што Дзмітры Матвеевіч як вопытны работнік бяспекі хутчэй кіраваўся практычнай выгадай гэтакага нацыянальнага складу яго баявых таварышаў і ўсялякія сімвалы мала яго тады цікавілі. Беларускі хлопец з-пад Шарашэва добра ведаў мясцовую беларускую гаворку, якая дапамагала яму адкрыць дзверы і сэрцы тутэйшага насельніцтва. Чыгуначны машыніст Стэфан Баскінскі, сын Эдварда, добра гаварыў па-польску, што таксама магло прыдацца ў пошуках людзей, каб прыцягнуць іх да супольнай барацьбы з лютым ворагам.

— Першую днёўку, — успамінае даўнейшы чэкіст, — рашылі мы правесці ў лесе на поўдзень ад Пружан, недзе за вёскай Кацялкі.

Кожны з іх меў у нагах звыш 60 кіламетраў трывожнага, цяжкага, начнога маршу. Мне нават не хацелася паверыць, што гэты шлях ад Івацэвічаў у Пружаны адолелі яны за адну ноч. То ж давялося ісці ім па бездарожжы, цераз балота, перасякаючы шматлікія рэчкі і рэчачкі. Дзмітры Макараў рашуча, аднак, завяраў мяне, што гэта ім удалося.

Пачыналася слотная восень. Змучаныя і прамокшыя да апошняй ніткі, не распальваючы нават агню, каб закіпяціць хаця б крыху вады, яны кінуліся на падсціл з ёлкавых галінак і паснулі каменным сном. Толькі выпілі па глытку пякучай партызанскай самагонкі і перакусілі па кусочку сала. Двух спала, а трэці сядзеў і сачыў за акружаючым асяроддзем. Калі не мог ужо вытрымаць ад прыгнятаючай сонлівасці, тады будзіў сябра і сам займаў нагрэтую падлогу.

— На другі дзень, — прадаўжаў Дзмітры Макараў, — спыніліся мы на хутары пад Камянцом.

...І зноў кіламетраў пяцьдзесят, як не больш. Аблюбавалі сабе пусты хутар, недалёка ад лесу. Макараў найперш доўга разглядаў яго ў бінокль, каб выявіць, ці хто там выпадкова не жыве. Калі б хутар быў бы абжыты, дык найперш адазваліся б сабакі. Чакалі доўга. На шчасце, ніхто не падаваў адтуль жывога голасу. Асцярожна наблізіліся да будынкаў. Аказалася, што сярод поля тырчаць толькі разваленыя хлеў і прагнілы зруб клуні. Усё без даху. А дождж са снегам, быццам на злосць, заклейваў ім вочы. Назбіралі крыху саломы і ў развалінах гэтых будынкаў абсталявалі сабе дзённае логавішча. Спрабавалі нават раскласці невялічкі агеньчык, каб хаця рукі пагрэць. Хацелася прытуліцца да чагосьці сухога, цёплага, марылі аб гарачай страве і аб вясковай печцы... Нялюдская стома, амаль 150 пройдзеных кіламетраў, якія адолелі цераз дзве апошнія ночы, проста звалілі іх з ног. Нават самі не ведалі, як доўга давялося ім спаць і калі, і хто першы з іх прачнуўся. Найхутчэй гэта надакучлівы холад і гэтая клеістая сырасць, у якой, здавалася, купалася проста цэлае цела, вырвалі іх з абдымкаў зневаляючага сну.

Калі пацямнела, Макараў зая-

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 7)

## КАБ ЗАЧАПІЦЦА...

віў сваім таварышам:

— Пойдзем у вёску Вярхі, гэта ля чыгункі з Чаромхі ў Брэст. Там у мяне павінны быць знаёмыя давераныя людзі. Я іх памятаю з часу маёй пабыўкі ў Высокім. Крыху абсушымся і перакусім нешта цёплае.

Сяляне сустрэлі іх без радасці.

— Божачкі, божачкі! — загаласіла сялянка, разглядаючы ўзброеных людзей, якія з грукатам увалiлiся ў іх хату і кідалі свае вінтоўкі ды аўтаматы на стол. — То ж тут на чыгунцы немцы жывуць! Канец нам усім будзе!

— Замаўчы ты, баба! — крыкнуў на яе гаспадар.

— Пазнаеш?! — запытаў Дзмітры Макараў, калі селянін павесіў на сцяне цьмяную газоўку. — Дык частуй гасцей чым хата багата. І тапі печку, бо нам трэба падсілкавацца, нагрэцца і асушыцца...

— Божачкі, божачкі! — зноў загаласіла сялянка. — У нас жа нічога няма! Усё на кантыгент пайшло, а куры морам падушыла, а свіней калоць забаронена...

І расплакалася яна, і залілася шчырымі слязьмі. А як усё гэта скончылася, дык ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**




Каравай. Адной з найбольш маляўнічых адслон вясельнага спектакля з'яўляўся каравай. Каравайная цырымонія мела рытуальнае значэнне. З ёю звязваліся ў народнай свядомасці многія перакананні і захады. Каравай быў, несумненна, звязаны з адвечным у сялянскім асяроддзі культам хлеба, які ў даным выпадку спалучаўся і з культам сонца. Культава-рытуальны падыход да хлеба-каравая набываў асаблівае значэнне ў моманце закладвання новай сям'і, шчасце якой ў свядомасці беларускага селяніна ў мінулым спалучалася перш за ўсё, а можа і поўнасцю з дастатковай колькасцю хлеба. Якраз з гэтым належыць звязваць распаўсюджаную ў беларускім фальклоры ідэю „хлебавай долі".

Стоячы на парозе новага перыяду ў сваім жыцці, людзі каравайны абрад умясцілі ў цэнтральным месцы ўсяго вясельнага рытуалу.

Характэрнае і тое, што як каравай, так і звязаныя з ім іншыя вясельныя пірагі раздаваліся не толькі вясельным гасцям, але і многім выпадкова напатканым асобам. У гэтым звычаі праяўлялася імкненне да сімвалічнага падзелу і дарэння хлебам шчасця.

Не толькі ў XIX стагоддзі, але і ў першых дзесяцігоддзях XX стагоддзя каравай выступаў на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Зразумела, таксама ва ўсходняй Беласточчыне. І хаця сёння ўжо абрад каравая выступае ў нямногіх вёсках, то ўсё ж-такі памяць аб ім захавалася ў свядомасці старэйшага пакалення і ў шматлікіх каравайных песнях.

Дзякуючы О. Кольбергу захаваліся сляды ад каравайнага беларускага рытуалу ў XIX стагоддзі.

„Ponieważ ślub odbywał się zawsze w niedzielę, przeto w sobotę, w wieczór schodzą się do domu panny młodej mężatki i dziewczęta. Mężatki gniotą ciasto na karawaj, duży bochen pszeniczny z ozdobami, (pieką pieczonki, warzą potrawy, pomagają w przygotowaniach weselnych). Radość powszechna, śmiech, charakterystyczne pieśni weselne trwają do późna w nocy".

Прыведзеная справаздача (праўдападобна, верная, калі гаварыць аб Палессі, якім О. Кольберг цікавіўся) была б павярхоўнай і няпоўнай, калі б мы схацелі яе перанесці ва ўсходнюю Беласточчыну. Справа ў тым, што на Беласточчыне каравайны рытуал быў намнога багацейшы і намнога больш каларытны, чым гэта мы бачым у О. Кольберга. Сказанае не абазначае, што няма ніякага падабенства паміж караваем з Палесся і Беласточчыны. Як аналогія, так і розніца паміж імі выявяцца ў тракце нашых далейшых разважанняў на гэтую тэму.

Каравай ва ўсходняй Беласточчыне рыхтаваўся на некалькі дзён перад вяселлем або ў перадвясельную суботу. Муку на каравай рыхтавалі хлопцы ў жорнах, перамолваючы яе па некалькі разоў.

У адрозненне ад інфармацыі, пададзенай О. Кольбергам, на Беласточчыне ў падрыхтоўцы каравая не прымалі ўдзелу дзяўчаты, рыхтавалі яго толькі замужнія жанчыны. Праўда, дзяўчаты маглі знаходзіцца ў дзень падрыхтоўкі каравая ў вясельнай хаце і нават заглядваць у памяшканне, дзе рыхтаваўся каравай, аднак на даўжэй у гэтае памяшканне не дапускаліся. Здараліся ў гэтай справе і выключэнні. Для прыкладу, у некаторых вёсках з пагранічча паветаў Сакольскага і Беластоцкага дзяўчаты маглі прымаць удзел у падрыхтоўцы каравая. Рыхтавалі яны цеста вельмі старанна, але прытым і вельмі хутка. Гэта паспешлівасць мела спрыяць іх хуткаму выхаду замуж.

**Аляксандр Баршчэўскі**

(Працяг са стар. 6)

## СЛЁЗЫ І ГОРА

з'еў, яго астыў. Прыношу яму, а ён кажа, што халоднага есці не будзе. Калі ты хочаш — еш, а калі не — выкіну гэта ўсё к чорту. Мне есці хацелася, хаця нам лепей давалі есці, чым яўрэям, але ўсё ж былі мы паўгалодныя.

Аднойчы зноў паслаў мяне па абед. Прынёс я яму, а ён сядзіць сумны. Пытаю, чаму такі сумны. Ён уздыхнуў і кажа: „Мой сын не жыве". „О, добра табе так, — думаю. — Паглядзі, гад, на сваёй уласнай шкуры, як гэта добра. Мільёны людзей плача па сваіх блізкіх, плач і ты!". Але пазнаць гэтага па сабе не даў і пачаў суцяшаць яго. Ён доўга маўчаў, а пасля адазваўся: „Немцы гэтую вайну прайграюць. Я знаю рускіх, сам быў у пятнаццатым годзе ў рускім палоне. Усе гэтыя нашыя адзначэнні пойдуць к чорту. Нашыя сцягі будуць ляжаць каля вашых ног. Ты гэта ўбачыш. Толькі сыны мае дарма бадзяюцца па свеце. Вось ужо адзін загінуў, а што, калі загіне і другі? Што з намі Гітлер зрабіў?.. Я рускіх знаю, яны нам за ўсё адплацяць!"

Праўду казаў. Усё споўнілася. Яго другі сын таксама загінуў. Пасля вайны гітлераўскія сцягі былі кінуты пад ногі савецкім воінам. Вось які прарок з гэтага немца быў.

Калі фронт набліжаўся да Валкавыска, я ўцёк дадому. Аднак хаты не было. Немцы ўсё спалілі. Мая сям'я, як і другія сем'і, сядзела ў лесе. Ніхто мяне не шукаў, а то таму, што не было каму. Фашысты думалі, як ратаваць саміх сябе. Калі савецкія войскі вызвалілі Семяноўку і яе паасобныя хутары, трэба было ўсё адбудаваць.

**Аўрора**




## УКАЗАЛЬНЫЯ РАСЛІНЫ

У снежні нікога не намаўляю на шпацыр. Ды і сам таксама не хаджу, хіба толькі з сабачкам і то адно вакол суседніх будынкаў. Таму на снежаньскі вечар прапаную разважанні агульнага характару, больш тэарэтычнага. І так, шпацыруючы летам, чалавек міжвольна задумваецца, чаму на дзвюх, скажам, лясных палянах, якія знаходзяцца ад сябе ўсяго ў некалькіх сотнях метраў, растуць зусім розныя гатункі раслін? Паспрабуем на гэта адказаць пасрэднім чынам. Вядома, што кожная расліна мае свае любімыя ўмовы глебавыя, вільготнасцевыя, цеплавыя, светлавыя і г.д. У месцы, дзе такія ўмовы знаходзіць, яна надзвычай жыццяздольная. Сяляне добра ведаюць, што бываюць такія месцы на полі, з якіх надзвычай цяжка вывесці тое ці іншае пустазелле, нават хімічнымі сродкамі. Зразумела, расліны растуць не толькі ў сваіх „любімых" месцах. У кожнай з іх ёсць свае межы талерантнасці ў адносінах да варункаў жыцця, але кожная найлепш развіваецца, расце самай здаровай, дае мажное насенне, хутка разрастаецца і г.д. якраз у аптымальным для яе месцы.

А цяпер адвернем сітуацыю. Калі спазнаем вымаганні раслін, тады на падставе прыродай сфармаванага іх гатунковага складу можам акрэсліць некаторыя ўласцівасці месца, на якім яны растуць. Такім спосабам найлягчэй вызначаць кіслотнасць глеб, вільготнасць, колькасць іх азоту і г.д. Возьмем некалькі прыкладаў.

Палявое шчаўе, трыпутнік, хвошч, чарніцы, брусніцы любяць расці на кіслых, нават вельмі кіслых глебах. Калі ўвапнаваць глебу, гэтыя расліны „выведуцца" з яе. На меней кіслых глебах растуць маліны, кісліца звычайная, на мала кіслых і нейтральных — пырнік, белая канюшына, рамонак, суніцы. На шчолачных (засадовых) глебах (вапнаванне іх было б стратай вапны, часу і грошай), між іншым, расце: бярозка палявая, мак палявы, гарчыца палявая (па-тутэйшаму — рапуха). Добрыя ўказальнікі багатых азотам глебаў — гэта крапіва, стрэлкі звычайныя (лацінская назва — capcella bursa pastoris, tasznik pospolity — па-польску), глухая крапіва (лацінская назва — Lamium, jasnota biała — па-польску), лебяда і іншыя.

Расліны не толькі паказваюць якасць глебы, але раскрываюць і шмат іншых таямніц зямлі. Рускі вучоны М. Ламаносаў пісаў: „...там, дзе знаходзяцца паклады мінералаў, дрэвы пераважна растуць нездаровыя, карлікавыя, моцна сукастыя, лісце бледнае, хутка іх ахоплівае гніль і ў выніку яны „старэюць" у вельмі маладым узросце. Таксама на „жылах" руд трава мізэрная і бледная".

Веданне знешніх праяўленняў таямніц зямлі было адным з важных аспектаў геалагічнай навукі. Дакладней: не толькі было, але і ёсць. І так, хоць цяжка ў гэта паверыць, таксама цяпер звесткі пра паклады розных мінералаў рэгіструюць спецыяльныя геалагічныя сатэліты, а затым яны правяраюцца, між іншым, назіраннем і даследаваннем хімічнага складу растучых там раслін. Калі з радыёмагнетычных даследаванняў вынікае, што ў якім-небудзь месцы могуць знаходзіцца паклады медных руд, тады ў тое месца накіроўваюцца геолагі і шукаюць іх праяўленняў перш за ўсё на паверхні зямлі, між іншым, назіраннямі і хімічным аналізам попелу растучых там раслін. Толькі пасля ўсяго гэтага яны прыступаюць да праверкі гіпотэзу свідраваннем.

Аказваецца, што мова прыроды надзвычай багатая. Чалавецтва на працягу соцень тысяч год спазнае яе і надалей ведае ўсяго столькі, што пра таямніцы прыроды ведае вельмі мала.

**Б. Паскробка**

Мал. Д. Камінскай









# Зорка

## Старонка для дзяцей


Алег Буцень

## ПІСЬМО ДА ДЗЯДУЛІ

Паехаў дзядуля.

Прайшло некалькі дзён, пакуль дачакаліся пісьма ад яго. Дзядуля заўсёды піша доўгія пісьмы. Мама чытае іх уголас. У канцы кожнага пісьма дзядуля што-небудзь малюе для Людачкі. У гэтым пісьме ён намаляваў поезд — гэта значыць, што пісьмо з дарогі. Людачка чытаць не ўмее, а малюнкі разумее.

Вечарам мама села за стол і пачала пісаць адказ дзядулю

— А ты, дачушка, што-небудзь намалюй, — сказала яна.

Людачка ўзяла карабок з каляровымі алоўкамі, папрасіла ў мамы лісток паперы і пачала маляваць.

Доўга яна вадзіла па паперы то адным, то другім алоўкам, пакуль увесь лісток не замалявала. Паглядзеў тата на малюнак і сказаў, што нічога не можа зразумець па малюнку.

— Гэта наш пакой, — тлумачыла Людачка. — А гэта мама сядзіць за сталом, бачыш?

— Так — паківаў галавой тата. — А гэта што?

— Гэта... гэта заяц.

— Ну, добра, малюй, толькі так, каб дзядуля ўсё зразумеў.

Скончыла мама пісаць пісьмо, узяла Людачкін лісток і паклала яго разам са сваім пісьмом у канверт.

На другі дзень Людачка ўсю дарогу сама несла заклееены канверт, а мама ішла побач. Калі падышлі да паштовай скрынкі, мама падняла Людачку і тая ўпусціла канверт у скрынку.

— Дзядуля хутка атрымае наша пісьмо?

— Не, дачушка, не хутка. Калі ў паштовай скрынцы збярэцца шмат пісем, іх адвязуць на пошту, а потым на станцыю.

— А потым?

— А потым пісьмы пагрузяць у спецыяльныя паштовыя вагоны і яны паедуць поездам, пакуль кожнае пісьмо не прыедзе ў той горад, што напісаны на канверце.

Прайшло шмат дзён, а адказу ад дзядулі не было. Шмат разоў прыходзіў пісьманосец, але прыносіў толькі газеты.

— Чаму дзядуля не піша? — непакоілася Людачка.

— Ён, мабыць, заняты, часу не мае, — адказвала мама.

І вось нарэшце пісьманосец прынёс пісьмо.

— Ад дзядулі! — закрычала Людачка.

— А ты адкуль ведаеш? — спытала мама.

— Ведаю! Ведаю!

Але гэта было не сапраўднае пісьмо, а паведамленне, у якім гаварылася, што на пошце ёсць пасылка і яе трэба пайсці ўзяць.

— Мамуся, пойдзем разам цяпер па пасылку?

(Працяг на стар. 10)



Хлопцы з Казлоў — Аркадзік Яканюк і Пеця Юзэфчук. Аркадзік вучыцца ў чацвертым класе, а Пеця — у трэцім. Сёлета яны вучацца ў новай школе ў Дубяжыне. А ў школу і са школы бегаюць напрасткі праз лугі. Так бліжэй і хутчэй.

Фота Я. Чэрнякевіч.

Віктар Швед

### ПЫТАННІ І АДКАЗЫ

Адкажыце на пытанне,
дзеці:
Што найдаражэйшае на свеце?
— Народ, край, маці.

Адкажыце на пытанне, дзеці:
Што найбагацейшае на свеце?
— Зямлі багацці.

Адкажыце на пытанне, дзеці:
Што найвесялейшае на свеце?
— Палі, дубровы.

Адкажыце на пытанне, дзеці:
Што найпрыгажэйшае на свеце?
— Родная мова.

### ШТО НАЙБОЛЬШ ПРЫГОДНАЕ?

Настаўнік распачаў урок
І запытаў Алеся:
— Што найбольш прыгоднае,
сынок,
Ці Сонейка, ці Месяц?
— Месяц, ён нішчыць ночы
цень,
Упэўнена, салідна.
А Сонца свеціць толькі ўдзень,
Калі і так ёсць відна.

### КАРАБЛІК

Пасля дажджу Сцяпан ля лужы
Сцізорыкам караблік стружа.
І на ваду пускае потым
Караблік слаўнае работы.
Гэта ж не лужа, толькі мора,
Свет цэлы аплыве ён скора,
Убачыць мноства розных дзіваў
І вернецца дамоў шчасліва.
Ля мамы ціхенька прыляжа
І падрабязна ўсё раскажа.

### ЗБОЖЖА Ў ПАДАРОЖЖЫ

Снапы, снапы,
Аж дзве капы.
А на снапах
Маленькі Стах.
Воз, быццам дом,
Відаць кругом,
Адкрыў сакрэт
Шырокі свет.
Конь ледзьве воз
Дамоў прывёз.

Рыхтуемся да ёлкі

## НАВАГОДНЯЯ СУСТРЭЧА

**Пачатак у папярэднім нумары**

*Праз другія дзверы ўбягаюць Коля, Валодзя, Аня.*

Валодзя. Ледзь не спазніліся на вечар.

Коля. І ўсё праз Аню, праз яе.

Аня *(да Колі)*. Глядзі сюды, на ёлку, лепей і языком не лапачы.

Коля (аглядае ёлку). Адкуль вы столькі ўзялі цацак? Ах, як прыгожа! Аня, глянь!

Таня. Не тое скажаце яшчэ, калі яна зазіхаціцца рознакаляровымі агнямі.

Валодзя *(убачыў Старога Года, да Тані і Ліды)*. Што за дзядуля ў тым кутку?

Таня. Не скажам.

Ліда. Наш сакрэт.

Коля *(падыходзіць бліжэй да Старога Года)*. Што з вамі сталася, дзядуля?

Стары Год. Са мною? *(Азіраецца)*. Нічога дрэннага, голубе.

Коля. Чаму ж трасуцца вашы рукі?

Стары Год. Ды так... Апошнія ідуць мае хвіліны.

Аня *(спалохана)*. Вы што, дзядуля, нездаровы?

Коля. Вам можа доктара паклікаць?

Валодзя. Хіба ў хворага пытаюць, ці будзе піць сваё лякарства?

Аня. Бяжы па доктара, Валодзя.

Коля. Хутчэй, хутчэй па дзядзьку Грышу...

Ліда. Пастойце, крыку не рабіце...

Таня. Мы ўсё раскажам па парадку...

Валодзя *(перапыняе дзяўчынак)*. Чаго абедзве тут глядзелі? Так мог памерці чалавек.

Аня. Хутчэй па доктара.

*Валодзя і Коля спяшаюцца да дзвярэй. Стары год загароджвае ім дарогу.*

Стары Год. Не трэба доктара, не трэба. Ніхто мне больш не дапаможа пажыць між вас тут лішнюю хвіліну. Я, дзеці, Стары Год.

Валодзя *(здзіўлена)*. Вы Стары Год. Я — Стары Год.

Ліда *(да Валодзі)*. А ты чаго разявіў рот?

Валодзя. Нічога я не разумею.

Таня *(да Валодзі)*. Мы расказаць хацелі вам, ты нам не даў прамовіць слова.

Коля *(да Ані і Валодзі)*. Не верце ім. Тут нейкае хітрунства. Калі было на свеце дзе, каб Стары Год прыходзіў да людзей, як чалавек?

Стары Год *(паказвае на Таню)*. Яна таму віною.

*Усе акрамя Ліды, здзіўлена пазіраюць на Таню.*

Стары Год. Ёй захацелася пабачыць вось тут на ёлцы Новы Год. Але забылася на тое, што перш патрэбна развітацца з аджытым Годам, а пасля чакаць прыходу Новага на змену. Мяне Старога не чакалі і, можа, бачыць не хацелі. Я сам прыйшоў, каб вам сказаць — старых патрэбна паважаць. *(Глянуўшы на гадзіннік)*. Мне час у дарогу выбірацца.

Валодзя. У такі мароз? Не выпусцім адсюль.

Коля. Для дарагіх гасцей, як вы...

Аня. У нас заўсёды будзе месца.

Таня. Мы палюбілі вас, дзядуля...

Ліда. І не жадаем разлучацца.

Стары Год. Не менш і я вас палюбіў. Ды нельга мне тут заставацца: да вас прыходзіць Новы Год.

Таня. Ну і няхай. Абодвум месца хопіць.

(Працяг на стар. 10)

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## СТРАХ
**Кубінская казка**

Сустрэліся неяк у лесе шэсць зайчанят. Ідуць яны, ідуць, пра справы розныя гавораць. Раптам з дзікай яблыні — шпок! — на сухое лісце ўпаў яблык. Зайчаняты аж прыселі ад перапалоху. Потым жа як кінуцца яны бегчы!

Убачыў гэта воўк і пытаецца:

— Чаго вы бежыцё?

Там страшны звер! У кустах схаваўся... Хацеў нас з'есці...

Спужаўся воўк і з усяе сілы наўцёкі, як і зайчаняты.

Неўзабаве вестка пра страшнага звера разнеслася па лесе. Да зайчанят далучаліся розныя звяры: па адным, парамі, цэлымі табунамі. Увесь лес задрыжаў ад звярынага тупату.

Незвычайным шумам зацікавіўся стары леў. Выйшаў ён звярам насустрач і сказаў:

— Ну і відовішча! Я ўпэўнены, што вы — цудоўныя бегуны і дабяжыце да фінішу адначасова. Толькі хацелася б ведаць, з якой нагоды такія спаборніцтвы?

Тыгр, які бег самым апошнім, на хаду адказаў:

— Не ведаю... Страшны звер за намі гоніцца...

— Дзе ён, той страшны звер?! — зароў стары леў на ўвесь лес.

— Не ведаю дакладна... — прашаптаў тыгр.

— Мне здаецца... — заікнулася лісіца.

— Нам сказалі... — прамармыталі леапард і слон.

— Гавары, тыгр, — хто табе сказаў пра страшнага звера?! — крыкнуў стары леў так моцна, што аж рэха пабегла па лесе.

— Мне сказаў леапард...

— А я пачуў ад ваўка...

— А мне сказалі...

— Так, так. Мы ратаваліся! — адразу пачулася некалькі звярыных галасоў.

— Пойдзем! — рашуча ступіў назад стары леў. — Я сам хачу ўбачыць таго страшнага звера!

Прыйшлі на тое месца, адкуль кінуліся бегчы зайчаняты. А там — шпок! — з дзікай яблыні на сухое лісце яблык упаў.

— От вам і звер! — зарагатаў стары леў і аж за жывот схапіўся.

Некаторы час усе звяры стаялі моўчкі, затым і яны пачалі смяяцца на ўвесь лес. Зайчаняты таксама смяяліся. Смяяліся да слёз. Смяяліся да знямогі. Так смяяліся, што ў іх аж губы палопалі.

**Калі ты часам спалохаешся, то пастарайся даведацца, што ці хто цябе напалохаў. І не кідайся бегчы толькі таму, што хтонебудзь іншы бяжыць і кажа: „Мне здаецца... Мне гаварылі..." Страх, мой дружа, пераважна нараджаецца з нічога.**

**Фройлан Эскабар**

*1. Як у лесе нарадзіўся вялікі страх?*

*2. Пераважна з чаго нараджаецца страх?*

*3. Якім часткам казкі адпавядаюць загалоўкі? Вызначце.* а. Зайчаняты спалохаліся. б. Сустрэча з ваўком. в. Перапалох у лесе. г. Размова з львом. д. Пошукі страшнага звера. дж. Страх знайшоўся. дз. Звяры смяюцца. е. Страх нараджаецца з нічога.

*4. Прачытайце казку з падзелам на ролі. Для гэтага папярэдне вызначце, якія радкі павінны чытаць: аўтар, воўк, зайчаняты, леў, тыгр, лісіца, леапард і слон, іншыя звяры.*

*5. Прачытайце словы парамі. Як у падкрэсленых словах вымаўляецца л з галоснымі е, ё, я?*

Лета — лье, лён — паштальён, паляна — Ульяна.

**Абасобленае вымаўленне мяккага л з галоснымі і, е, ё, ю, я абазначаем раздзяляльным ь (мяккім знакам): Ільіч, мільён, палью.**

*6. Прачытайце словы і знайдзіце ў іх словы з раздзяляльным ь (мяккім знакам). Паміж якімі літарамі стаіць раздзяляльны ь?*

**1. Я сябрую з Ільюшам Раманчуком. 2. Зося спачатку градку аполе, а потым палье яе. 3. Паблізу нашага дома пабудавалі гандлёвы павільён. 4. Кропелька за кропелькай льецца вадзіца з маленькай крыніцы.**

*7. Пры спісванні замест кропак пастаўце, дзе трэба, апостраф або раздзяляльны ь.*

1. Халодны вецер б...е ў твар. 2. Увосень часта л...юць дажджы. 3. Па вуліцы крочыў бата...ён салдат. 4. Нос доўгі, голас тонкі, хто яго заб...е, той сваю кроў пра...е. (камар). 5. Жыццё пчалінай сям...і — адна з цікавых і цудоўных з...яў у прыродзе.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

ССCР, 3465, г. Шахты, Ростовской обл., ул. Ленина, 13, кв. 30. Молчановой Наташе. 8 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты. ул. Волошина, 24, кв. 13. Казинцева Мая. 5 клас.

* * *

СССР, 346514, г. Шахты-14, Ростовской обл., ул. Байкальская, 15. Молчановой Ирине. 8 клас.

* * *

СССР. 346514. г. Шахты, Ростовской обл., ул. Константиновская. 41, кв. 2. Высоцкой Оле. 8 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 3. кв. 1. Алег Канаплёў, вучань 4 класа.

* * *

БССР, 220051, г. Мінск-51, пр. Дзяржынскага, 5-А, кв. 7. Ала Сцяпуцька, вучаніца 2 класа.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 116, кв. 52. Наташа Курыла, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36. вул. Волаха, 10 кв. 26. Таня Быстрык, вучаніца 4 класа.

(Працяг са стар. 9)

## НАВАГОДНЯЯ СУСТРЭЧА

Стары Год *(адмоўна ківае галавой).* Старое з новым не ўжывецца. Не можам мы ўдваіх сустрэцца. Я ўцякаю ад яго, а ён бяжыць за мною следам. *(Паказвае круг).* Так пройдуць суткі ў дарозе, пакуль зямлю не абяжым.

Коля. А там, дзядуля, што?

Стары Год. А там?.. Мяжа між Захадам і Усходам. Мяжа майго жыцця.

Таня *(з жалем).* Дзядуля мой, і ты памрэш, як дабяжыш туды, дзе нарадзіўся?

Стары Год. Не, не памру. Я толькі знікну для людзей. А для гісторыі навечна застануся.

*Стрэлкі паказваюць 12. Чуваць звон гадзінніка. Стары Год насцярожваецца. Важна ўваходзяць ганцы, становяцца з бакоў дзвярэй. Здалёку даносіцца гул фанфар. Ганцы не бачаць Старога Года.*

Ганец першы. На ваш вясёлы карагод...

Ганец другі. Ідзе шчаслівы Новы Год.

Стары Год. Старое з новым не ўжывецца, стары ад новага бяжыць. *(Павольна адступае да другіх дзвярэй. Паказвае на вучняў).* Забылі ўсе і да парога ніхто старога не правёў. Шчаслівы будзьце і здаровы, не знайце гора і бяды. *(Знікае).*

Коля *(схамянуўшыся).* Куды ж падзеўся наш дзядуля?

Таня *(глядзіць у адчыненыя дзверы).* Няма... Знік у цемені начной.

Валодзя *(з жалем).* І больш яго ніколі не ўбачым...

Ліда. Хто ж дагуляе з намі карагод?

*Усе пазіраюць на Ліду.*

Новы Год *(у тон Лідзе).* Я — Новы Год.

**Заканчэнне ў наступным нумары**

(Працяг са стар 9)

## ПІСЬМО ДА ДЗЯДУЛІ

— Не, дачушка, пасля абеду. Цяпер я занятая.

Ой, як доўга не мог зварыцца боршч! Ён усё кіпеў, кіпеў, а мама ўсё прабавала, прабавала яго і казала, што ён яшчэ не гатовы. А потым боршч быў такі гарачы, што трэба было чакаць, пакуль ён астыне.

Паабедалі хутка, мама нават здзівілася, што Людачка ўмее так хутка і добра есці.

На пошце пасылку атрымалі без клопатаў. Гэта была вялікая пачка, абцягнутая белым шнурком. Як падушка, толькі не такая мяккая.

— Што там? — з нецярплівасцю спытала Людачка.

— Не ведаю. Дома пабачым.

— А цяпер нельга?

— Не.

Людачка хацела заплакаць, але перадумала, таму што трэба было спяшацца дадому, каб хутчэй даведацца, што ў пасылцы. А мама, як спецыяльна, не спяшалася, ды яшчэ і ў краму зайшла.

Але вось нарэшце яны дома. Пасылка ляжыць на стале. Мама бярэ нажніцы і асцярожна разразае ніткі, якімі зашыта пасылка. Што гэта такое? Белае, пушыстае...

— Футра! Мамуся, дзядуля футра прыслаў! — затанцавала Людачка.

— Бачу, бачу. Ціха. Ці ж можна так скакаць?

— Дзядуля атрымаў тваё пісьмо і прыслаў футра — усё яшчэ шчабятала Людачка.

— А ты што, пісала яму, каб ён прыслаў табе футра? Ці ж ты ўмееш пісаць?

— Не. Я яму намалявала зайчыка. А футра гэта зайкава, праўда, мама?

— Вось яно што! — засмяялася мама. — Ну і здагадлівы ж у цябе дзядуля!



## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Я хачу Табе расказаць пра выстаўку народных вырабаў. Яна знаходзіцца ў нашай школе ў Трасцянцы. Арганізаваў яе гурток беларускай мовы. Экспанаты на выстаўку прынеслі вучні.

Тут знаходзяцца прыгожыя ільняныя ручнікі, вышываныя рознымі ўзорамі. Найбольш ручнікоў двухколерных — чырвона-чорных. Яны вышываны крыжыкамі. Усе яны аздоблены на канцах брыжыкамі. На століках — тканыя людзьмі двухколерныя — ясныя з цёмным — плахты. Тут ёсць і прылады працы, напрыклад, маслабойка. Яе яшчэ не так даўно ўжывалі. Тут ёсць і драўляныя мэтэнька, капанечка, валок з валкаўніцай, якія яшчэ цяпер выкарыстоўваюцца.

На гэтай выстаўцы сабраны экспанаты з гліны — міска, збанок, чыгунок, дваянцы, гладунка.

Дарагая „Зорка"! Ад сэрца запрашаем Цябе на нашу выстаўку.

**Іра Андрэюк, Трасцянка**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Я вучуся у пятым класе. Люблю чытаць „Ніву" і „Зорку". Вучуся нядрэнна. Жыву ў вёсцы Тыневічы Вялікія, але ў школу езджу машынай, якая возіць нашых дзяцей. Вельмі хацеў бы пазнаёміцца з сябрамі і сяброўкамі з СССР. Мой адрас: Адам Галавачык, в. Тыневічы Вялікія, 12. пошта 17-208 Кленікі, Беластоцкае ваяводства.

**Ад рэдакцыі.** Вазьмі, Адаська, адрас з „Зоркі", з куточка „Пазнаёмімся", і сам напішы да каго-небудзь пісьмо. Напэўна табе адпішуць. Так найхутчэй будзеш мець сяброў у СССР.

### АДГАДАНКА



**Палічыце дакладна, колькі трохвугольнікаў на гэтым малюнку.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

З чаго смяюцца суседзі

## МІНІЯЦЮРЫ

— Значыць, вы працягваеце цвярдзіць, што яна ўсё-такі круціцца? — строга спыталі дзе трэба Галілея.

— Бачыце, — ухіліста адказаў вучоны, — погляды, якія я выказваю, не абавязкова супадаюць з маімі ўласнымі.

*

— Як у вас холадна, ваша праялебнасць, — сказаў Людовік XIII, садаючы ў крэсле ля няпаленага каміна.

— Чым больш ерэтыкаў, тым горш з дровамі, сір, — адказаў Рышальe.

*

Пасля таго як Ева пакаштавала забаронены плод, Уседзержца, узлаваўшы, выгнаў яе з мужам з раю і тут жа напісаў таблічку з заклікам: „Згноім усе забароненыя плады ў раённых гароднінных базах!"

*

— Пачым такі зялёны вінаград? — спытала Ліса на Цэнтральным рынку.

— 8 рублёў кілаграм. Бяры, не пашкадуеш! — параканедаваў гаспадар.

— Не магу, дарагі, — адказала Ліса, — годнасць не дазваляе.

— ...Не зразумеў, — перапытаў гандляр.

— Чаго ж тут не разумець. Тое, што вышэй нашых магчымасцей, як правіла, ніжэй нашай годнасці.

**В. Калечыцкі**

## МЯДЗВЕДЗЬ І ЗАЯЦ

Мядзведзь знячэўку сеў на Зайца
і прабурчэў, каб апраўдацца:
— Прабач, Касы, за гэта мне
Агрэй чым-небудзь па спіне.
Чаму маўчыш, мой любы Заю?
Не бойся, бі! Я ж дазваляю.

**Пятро Перац**



— Велікаватая, бадай...

# НІЎКА



Рабінзон: „Толькі гэтага мне не хапала!.."

## ДЫЯЛОГ

Сустрэліся ў аўтобусе два задрыпанцы.

— Далёка едзеш?

— Далёка. А ты?

— А я яшчэ далей.

## ЧАМУ

Хлопчык (хныкае):

— І я хачу плаваць на глыбокім дзе тата!..

— Нельга, сынок!

— А чаму тату можна?

— Ён застрахаваны.

## ТАКІЯ ВОСЬ СПРАВЫ

— Слухай, Іван, — звяртаецца жонка да мужа, — людзі кажуць, што ты да Марыны ходзіш...

— Гэта іх справа.

— А яшчэ кажуць, што яна пра гэта языком трэпле па сяле...

— Гэта яе справа.

— Ну, то я ёй усе вокны павыбіваю!

— Гэта твая справа.



Усю душу ўклаў у працу і стаў бяздушны да людзей.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Едзе Іван возам з поля вуліцаю сяла. Раптам гнядыя так затармазілі, што фурман ледзь не перакуліўся.

— Вййо-о-о, чэрці! — сцёбае Іван пугай. — Цётка Хіма за спекуляцыю самагонам даўно ў папраўчай калоніі, а яшчэ і дагэтуль каля яе варот спыняецеся!

*

Шатландзец пытае свайго сябра Мак-Грэгара:

— Гавораць, ты раздумаўся разводзіцца з Рэйчал?

— У мяне проста няма іншага выйсця: яна так растаўсцела, што не можа звярнуць мне заручальны пярсцёнак!

*

— Што робіць ваш сын, які, памятаю, у дзяцінстве праглынуў залатую манету?

— Цяпер ён у банку.

— Вы атрымліваеце з яго працэнты?!

## ДЗЕ ДЗВЕРЫ

Выканаўца работ, прыйшоўшы раніцой на работу і агледзеўшы аб'ект, развёў рукамі:

— Ну і дзіва! Толькі ўчора павесілі дзверы, а іх ужо няма...

І да вартаўніка:

— Дзе дзверы?

— Не ведаю, не ведаю. Вось пагляджу дома. Калі няма, то значыць, нехта ўкраў.

З „Весніка Задрыпоніі"

## АШЧАДНАСЦЬ НА МАРШЫ

Кладаўшчык В. Бахусовіч за працоўны тыдзень сэканоміў 3 літры спірту. Суботу і нядзелю ён будзе працаваць на сэканомленым паліве.

## БАНТОН

Калі вашы госці чамусьці засядзеліся, не пазірайце на гадзіннік. Гэта непрыстойна. Лепш паведаміце ім, што пазаўчора ў вашым раёне кагосьці позна вечарам абрабавалі.






Маўчыш? Значыць, не пазнала!..



# Курёзы

## БЛАКІТНАЯ КРОЎ

Кожны год у Англіі выдаецца даведнік арыстакратычных сямей. У ім змяшчаюцца розныя звесткі пра англійскіх арыстакратаў (якія запэўніваюць, што ў іхніх жылах цячэ гэтак званая сапраўдная блакітная кроў). Але ў мінулым годзе даведнік выйшаў друкам з паўгадовым спазненнем. Прычынай такой затрымкі стала жаданне выдаўцоў папшырыць змест даведніка — унесці ў яго і гэтак званых пазашлюбных дзяцей арыстакратаў (у якіх толькі 50 працэнтаў крыві можна лічыць блакітнай). А такая работа вымагае часу...

Давялося выдаўцам прасіць прабачэння ў падпісчыкаў і растлумачыць прычыну, якая разладзіла ўсе выдавецкія разлікі: „Мы спачатку не ўяўлялі сабе абсягу працы і не дапускалі, што ў маладыя гады англійскія арыстакраты могуць нарабіць столькі „рамантычных памылак". Амаль у кожнай вялікай сям'і арыстакратаў выявіліся пазашлюбныя дзеці.




Дзе ёсць шлюб без кахання, там ёсць і каханне без шлюбу.